# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 11 (1203) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 18 САКАВІКА 1979 г. ЦАНА 60 гр.



*На цэнтральнай вуліцы Васількова ў святочны дзень у гэтую снежную зіму.*

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Васількаў

Падарожнічаць па Беласточчыне — гэта значыць вандраваць па мясцінах, якія ў сваё мінулае заглядаюць выключна вачыма дзівосных легендаў.

Заедзьце хоць бы ў мястэчка Васількаў — і першы сустрэчны васільковец на пытанне, што яму вядома пра паўстанне яго роднай мясцовасці, ахвотна раскажа вам паданне пра двух братоў. Як гэта бывае ў легендах, пачуеце вы, што адзін брат быў дабратлівы, а другі — хцівы. Жылі яны так, пажывалі колькі часу, ажно той хцівы брат пачаў пазіраць прагнымі вачыма на багацце свайго дабратлівага брата. Запрасіў яго да сябе ў гасціну, замкнуў у цямніцу ды слугам сваім загадаў яго там асляпіць. Потым, аслепленага, з двара свайго выгнаў, а ўсю брату маёмасць сабе прыдбаў. І пайшоў сляпы дабратлівы брат па свеце, жабруючы і на свой лёс наракаючы. Хадзіў ён так доўга ці коратка, аж трапіў у нейкую пушчанскую гушчэчу. Думаў ён, што настаў ужо канец яго гаротнаму бадзянню, калі не ў пашчы дзікага звера, то ў дрыгвястай топелі. Але ж, паўзучы так ракачам, наткнуўся ён рукамі на нейкі ручаёк са сцюдзёнаю вадою. Пачаў у ім абмываць пакалечаныя і загвэдзганыя ногі, рукі. Калі ж пырснуў у твар — раптам у сляпых вачах яму неяк паяснела, пырснуў другі — забалавела, быццам на досвітку; пырснуў трэці — слепату тую як рукой зняло! Нацешыўшыся ўволю красою бачанага свету, выздаравеўшы дабратлівы брат не падаваўся далёка ад цудадзейнага ручайка, які назваў Святою вадою. Пасяліўся тут паблізу і стаў жыць ды пажываць у шчасці і здароўі аж да самай смерці. Называўся ён Васілька, і ад гэтага імя займеў сваю назву цяперашні Васількаў. Цікавая легенда, праўда? Можна было б яе залічыць да займальных твораў фантазіі жыхароў гэтага маляўнічага, утульнага мястэчка. Але нават і ў выдумцы, як кажа народная прыказка — дыму без агню не бывае.

Кожнага, хто любіць корпацца ў старажытнасцях Беласточчыны, уражвае здзіўляючае падабенства некаторых элементаў гэтай легенды з праўдзівымі падзеямі з XIII стагоддзя, калі тутэйшыя землі ўваходзілі ў склад Галіцка-Валынскага княства. Панавалі ў ім два **браты:** Даніла (нар. у 1201 г., пам. у 1264 г.) і Васілька (нар. каля 1205 г. пам. каля 1271 г.), сыны князя Раман Мсціслававіча. Вядучую ролю адыгрываў Даніла, ён валодаў асноўнай і не- больш багатай паўднёва-заходняй часткай дзяржавы, а Васілька меў меншае значэнне, яму належала меншая і бяднейшая паўночна-ўсходняя частка княства, у тым ліку землі над ракою Супраслю. **На вочы** хварэў Даніла. Наперакор легендзе абодва князі жылі ў праўдзівейшай брацкай згодзе і любві. Пра ніякія, нават самыя дробязныя, спрэчкі паміж імі гісторыя нічога не ведае. Нягледзячы на надзвычай цяжкія ўмовы — захопніцкія паходы венгерскага караля на паўднёвую частку княства, грабежніцкія напады яцвягаў і літоўцаў на паўночную, жудасныя татарскія нашэсці з усходу — князі-браты патрапілі абараніць дзяржаўнасць,

(Працяг на стар. 5)



## Перад сельскагаспадарчай вясной

Пачынаючы ад снежня ў лабараторыях Беластоцкага насеннага прадпрыемства „Насенная цэнтраля" праводзяцца доследы над сілай прарастання насення. Далей зерне неабходна дакладна ачысціць і сабраць у мяшкі. Беластоцкая „Насенная цэнтраля" нарыхтавала 9 тысяч тон пасяўнога зерня. У бягучым годзе будзе ўдосталь ячменю і пшаніцы, але замала аўса. Хопіць кукурузы, гароху, кармавых буракоў і капусты, люцэрны, перскай канюшыны і розных сартоў траў. Найбольш ёсць перскай канюшыны, буракоў палі-пастаў і гароху. Не забракне насення грэчкі, маку і гарчыцы. Замала будзе (як гэта было і ў мінулыя гады) проса, лубіну, сырадэлі і... чырвонай канюшыны.

(яц)

З рэпарцёрскіх запісак

## Аб чым куры кудахчуць

Калі ехаць з Гайнаўкі ў Нараўку, зараз жа за Навасадамі сярод іншых прыдарожных будынкаў выдзяляецца двухпавярховы асабняк з чырвонай цэглы. На панадворку, ля пад'езда стаяў „Тарпан", а крыху далей, ужо пад лесам, за драцяной агароджай схаваўся прадаўгаваты будынак. Гэта курнік на 5 тысяч штук курэй.

— Цяпер, у зімовы перыяд, — інфармуюць гаспадары, — у нас гадуецца 3 тысячы курэй-нясушак.

Аб чым яны кудахчуць?

✲

Найперш гэтае кудахтанне пачуў я ў Гайнаўцы. Начальнік Гайнаўскай гміны **Ежы Буйноўскі** з гонарам гаварыў мне:

— Калі хочаце знайсці найбольш красамоўны прыклад сучасных пераўтварэнняў у вёсках на Гайнаўшчыне, наведайце Васілюкоў.

Ну і паслухаў я начальніка. Я на курынай ферме **Вольгі і Валянціна Васілюкоў.** Застаў сям'ю за дзіўным заняткам. Сядзелі пры скрынках з яйкамі і школьнымі гумкамі заўзята церлі кожнае яйка. **Чатыры тысячы штук,** а кожнае з іх было абазначана цыфрай „5". І гэтую **пяцёрку** ліквідавалі яны з нервовай паспешлівасцю. Каб толькі хутчэй!

✲

Я глядзеў на гэтую працу і нічога не разумеў. Сэнс яе паясніла Вольга Васілюк.

— Пяцёрка, — гаварыла яна, — гэта мой актуальны распазнавальны нумар у інкубатары, бо мы гадуем пародзістых курэй, яйкі ад якіх прызначаюцца выключна для інкубацыі птушанят. Каб ведаць, ад каго яйкі пападаюць у інкубатар, трэба кожнае з іх абазначыць сваім нумарам.

— А чаму тады вы сціраеце гэтыя нумары са сваіх яек? — пытаю.

— Таму, што птушачнае прадпрыемства ў Беластоку сёння не захацела ад нас прыняць яек для інкубацыі, і мы вымушаны прадаць іх у спажывецкі гандаль, дзе пазначаных яек не прымаюць.

— Затрацім на гэтым аж 8 тысяч злотых, не ўлічваючы сваёй працы і часу, — дабаўляе Валянцін Васілюк.

— Гэта толькі на розніцы ў цэнах на яйкі для інкубацыі і для харчавання, — паясняе пані Вольга, — і то за адзін дзень. Да гэтага трэба было б яшчэ дабавіць кошт утрымання пеўняў. У нас іх каля 500 штук. Для спажывецкіх мэт куры могуць спакойна несціся без птушачных кавалераў. Нават яшчэ лепш, калі іх няма. Але яйкі для інкубацыі без удзелу пеўня зусім не прыдатныя. Праўда, плоцяць нам даражэй, але патрабуюць, каб не менш чым 80 працэнтаў яек праклювалася з жывымі птушанятамі. І таму трэба яйкі пазначыць перад пастаўкай у інкубатар.

— Кажаш, што даражэй нам плацяць, — спыніў яе муж. — Але і даражэй бяруць з нас. Аднадзённае нармальнае птушаня каштуе 14 зл., з нас бяруць 32, а за пеўняў па 28 зл.

✲

Слухаў я і надалей не вельмі разумеў. Чаму беластоцкае птушынае прадпрыемства вось так сабе, без ніякага папярэджання, раптам не хоча прыняць яек ад пастаянных сваіх пастаўшчыкоў? І то не аднаго ці двух яек, але аж 4 тысячы штук!

— Бо яны не маюць каму прадаваць куранят, — паясняе Вольга Васілюк. — Зборам заказаў на птушанят-аднаднёвак займаюцца цяпер сельскагаспадарчыя гурткі і гурткі вясковых гаспадынь. На месяц студзень яны заказаў не сабралі і інкубатар адмовіўся ад паставак, бо прадпрыемства гэтае курэй не гадуе.

— Не цікавіць іх тое, што ад такой палітыкі кожны дзень трацім мы тысячы злотых!

✲

У голасе Валянціна Васілюка адчувалася яўная злосць. Але хто не злаваўся б на яго месцы! Тым болей, што кожнае няшчасце любіць кампанію і ў адзіночку не ходзіць.

— Мелі мы прыдзел на 50 тон коксу, — гаворыць ён. —З вялікім крыкам, з горам і бядою атрымаў я толькі 10 тон. Рэшту прапанавалі ўзяць пад відам вугальнага пылу або брыкетаў. Адно і другое для мяне не прыдатнае. Калі

(Працяг на стар. 2)

# ХАТЫНЬ

22 сакавіка 1943 года загарэліся ўсе 26 хатынькскіх сялібы. 149 чалавек, з іх 75 дзяцей, сталі ахвярай душагубаў з фашысцкага батальёна спецыяльнага прызначэння „Чорная смерць". Крывавы досвітак таго дня быў апошнім для жыхароў Хатыні. Прыкладамі аўтаматаў і карабінаў каты сагналі іх у вялізную змрочную адрыну, што стаяла на краі вёскі. Эсэсаўцы ўрываліся ў кожную хату і са звярынай лютасцю выпіхвалі на мароз старых, мацярок з немаўлятамі, падлёткаў... Ніводнага чалавека не пакінулі.

Старанна палітая бензінам, запалала адрына. З-пад ахопленай агнём страхі вырваўся стогн дзесяткаў людзей. Стогн і крык. А каты спакойна, звычна рабілі сваю страшэнную справу — білі з аўтаматаў па тых, хто спрабаваў выйсці з агнявога палону. Потым запалала абрабаваная вёска.

...Прайшлі гады. І ўстаў на спаленай зямлі бронзавы жыхар Хатыні. Асцярожна трымае ён сына. На вачах расстралялі крывінушку.

Іосіф Камінскі — адзіны, каму ўдалося ўцячы ў тую страшэнную раніцу. Схіліўшы галовы, доўга стаяць перад ім людзі. А потым моўчкі праходзяць па вуліцах прыціхлай Хатыні, па гулкіх бетонных плітах, на якіх быццам асеў попел спаленых сяліб. Кладуць кветкі на шэры камень брацкай магілы. І як запавет тых, хто загінуў, застаюцца ў іх сэрцы словы:

„Людзі добрыя, помніце: мы любілі жыццё, і Радзіму нашу, і Вас, дарагія. Мы згарэлі жывымі ў агні. Наша просьба да ўсіх: хай жалоба і смутак абернуцца ў мужнасць і сілу, каб змаглі ўвекавечыць Вы мір і спакой на Зямлі. Каб нідзе і ніколі ў віхры пажараў жыццё не ўмірала".

Тэкст **Алеся Траяноўскага**
(альбом „Хатынь")

Фота **Марка Далецкага** (Беласток)







## „ІДЫЁТ" Дастаеўскага на беластоцкай сцэне

Спектакль „Ідыёт" паводле аповесці Фёдара Дастаеўскага (у сцэнічнай адаптацыі Станіслава Брэйдыганта), які паставіў беластоцкі тэатр імя А. Вянгеркі, стаў своеасаблівай падзеяй у беластоцкім тэатральным жыцці. Да Дастаеўскага наш тэатр звяртаецца не ўпершыню. І не толькі дзеля канфрантацыі з прачытанай аповесцю так часта пераносяцца сёння на сцэну творы гэтага вядомага рускага пісьменніка, а таму, што гэты наскрозь драматычны аўтар, які тварыў больш ста год таму назад, толькі ў апошнія дзесяцігоддзі стаў зразумелы тэатру і прыняты ім.

Сам Ф. Дастаеўскі ў 1868 годзе пісаў аб сваім творы „Ідыёт" так: „Галоўная думка аповесці — прадставіць станоўчага, прыгожага чалавека. Няма нічога больш цяжкага на свеце, асабліва цяпер. Усе пісьменнікі, не толькі нашыя, але таксама ўсе еўрапейцы, хто толькі браўся за прадстаўленне станоўчага, прыгожага чалавека, — заўсёды паддаваўся. Гэта велізарнае заданне. Прыгажосць з'яўляецца ідэалам, а ідэал — ані наш, ані цывілізаванай Еўропы — яшчэ не выпрацаваны..."*)

На фоне тагачаснай расійскай рэчаіснасці паказаны ён, галоўны герой аповесці князь Мышкін, чалавек, якога называюць ідыётам не таму, што быў ён у псіхіятрычнай бальніцы, а таму, што ў глыбіні душы верыць у дабрату людзей і ўмее знайсці ў кожным чалавеку нешта глыбока чалавечнае і прыгожае. „Не, вы не можаце мяне забіць!", — усклікае ён, калі Рагожын кідаецца да яго з нажом. І сапраўды дзіўны, праўда? Князь Мышкін хоча быць цудоўным чалавекам, але сам заблытваецца ў павуціннi жыцця, звітым людской нядобразычлівасцю. У гэтым вобразе можна заўважыць шмат біяграфічных момантаў з жыцця Фёдара Дастаеўскага.

Рэжысёр спектакля Ванда Ляскоўская паверыла ролю князя Мышкіна ў беластоцкім спектаклі Войцеху Пісарку. Яго „ідыёт" — меланхалійны, загублены і, хаця сыграны цалкам арыгінальна, не заўсёды зразумелы.

Постаць князя Мышкіна кантрастуе з рубашнай постацю Рагожына (Зенон Якубец), добрай і адначасова страшнай, „раздайся-душы" і чуць не забойцы. Хацелася б сардэчна павіншаваць Зенона Якубца. Яго Рагожын акрыляе спектакль і надоўга застаецца ў памяці.

Нельга не захапіцца роллю Настассі Філіпаўны ў выкананні Тэрэсы Чарнэцкай-Кастэцкай. Яна такая рознакалерная, такая багатая і насычаная, што момантамі нават здаецца: і што яна робіць з гэтай беднай сіроткай Мышкіным-Пісаркам?.. Дасканалая ігра Т. Чарнэцкай-Кастэцкай прымушае задумацца не толькі над лёсам кабеты, прыгожай і разумнай, у тагачасным грамадстве, але дазваляе зрабіць далёкасяжныя вывады аб змаганні дабра і зла, маны і праўды ў душы кожнага чалавека. Здаецца, з поўнай сатысфакцыяй можна было б сцвердзіць, што Т. Чарнэцкая-Кастэцкая працуе на Пісарка,

Працяг на стар. 4

М. ШАХОВІЧ

## З народных гаворак

**вузук** — раменнае спалучэнне цапільня з біяком. Падай цэп, вузук трэба паладзіць. Паглідзі, біяк з вузука зарваўся.

**дулька** — драўляная ручка, за якую прытрымоўваюць касу пры кашэнні. Знаходзіцца яна менш-больш пасярэдзіне куся. Трымай моцна за дульку, каб каса чубом у зямлю ні ўліезла. А тут дулькі німа.

**насіенка** — цэлая бульба, прызначаная для пасадкі. Насып у мяшкі насіенкі, садзіць паедзем. Едзь дахаты, бо насіенка скуончылась.

**паліца** — тая частка плуга, якая адкладае скібы. Пазыч у сусіеда плуг, бо в нашум паліца пагнулася. Німа дзе паліцы купіць.

**шахваруост** — чалавек, які ўсё выконвае абыякава. Гадуй, гадуй і вырасце табе шахваруост. Горшага шахваруоста, то вжэ німа.

**чыэр** — тая прылада, якой выкрасалі агонь.. Падай чыэр. Ні бары чыэру, бо згубіш. Хто там цяпэр чыэрам запальвае.

*(Ляўкова Новае, гміна Нараўка)*

З маёй званіцы

# БРАКАНЬЕРЫ

Да чаго ж прыгожая і багатая наша мова! Гэтай мовай можам выявіць самыя складаныя і, як кажуць, самыя тонкія пачуцці. Нездарма вучоныя славісты лічаць беларускую мову найбольш славянскай мовай.

А якая трапная наша лексіка! Толькі, не ўнікаючы глыбей у яе сэнс, чалавек гэтага не заўважае. Каліс і я не прыкмячаў, але начытаўшыся ў „Ніве" слоўніка Міхася Шаховіча, стаў глыбей задумвацца над кожным словам, аналізаваць яго, і пераканаўся, якая трапная яна ў нас. Пануе там не нейкая сляпая выпадковасць, а цвёрдая логіка. Возьмем некалькі першых-лепшых слоў і разам задумаемся над імі.

**Прыбіральшчыца** — гэта такі чаланек, у асноўным жаночага полу, які нічога больш не робіць, толькі прыбірае і прыбірае. Гэтай работы хопіць ёй на ўсё жыццё, і як бы яна не старалася, штораз больш непарадкаў будзе вакол яе. А гэта па той простай прычыне, што ў нас вельмі хутка размнажаюцца раскідальшчыкі. Вось таму гэтае слова не толькі не траціць на сваёй актуальнасці, а наадварот.

**Самагоншчык** — гэта такі тып, які ўвесь складаны, зразумела, небяспечны працэс прадукцыі самагонкі дабравольна ўзяў на сябе. Ён сам і са свайго матэрыялу, без хвальбы і крыку, рыхтуе раствор, рыхтуе апаратуру, потым, не чакаючы нічыёй дапамогі, ціхенькаспакойненька сам гоніць, сам хавае і сам у асноўным яе спажывае. Сам таксама шчодра расплачваецца за яе спажыванне сваім уласным здароўем і сваім аўтарытэтам, калі ў яго ёсць яшчэ такі.

**Карчоўка** — пякучая і смярдзючая вадкасць, якая служыць дабравольнаму самаадурманьванню. А называецца карчоўкай таму, што ў карчах робленая, у карчах хаваная, у карчах пераважна пітая. Хаця прадукт гэты ў нас даволі пашыраны і выпрабляецца здаўна, але яшчэ не поўнасцю авалодана яго тэхналогія. Каб давесці яшчэ да таго, што хто наліжацца яе, не будзе вылазіць з карчоў і паўзці ў публічныя месцы, было б проста ідэальна.

Вось вам тры розныя словы, тры розныя назвы і што, прыдзярэшся да іх? Усё тут цудоўна пасуе да сябе, усё проста, прыгожа і лагічна.

Ці ўсё ўжо так ідэальна ў лексіцы нашай? На жаль, не. Выступаюць часам пэўныя незаканамернасці. Мне, напрыклад, не падабаецца слова **„браканьер"**. І назва непрыгожая — аж дзярэ за вуха, і брак адэкватнасці паміж самой назвай і тым, каго яна абазначае. Я думаю, што той, хто першы прыдумаў такую назву, быў проста бюракратам — даў гэтую назву неабдумана, зусім не знаючы тых, каму на ўсё жыццё прыклеіў паскудную мянушку. Назва гэтая, як бачым, выводзіцца ад слова „брак", а што абазначае слова „брак" нікому, бадай, тлумачыць не трэба. Я асабіста знаёмы з браканьерамі. Летась пазнаёміўся з двума. А потым ездзіў з імі лавіць рыбу, бо яны ў той сезон якраз спецыялізаваліся ў гэтай галіне. І магу прысягнуць вам, што называць гэтых хлопцаў словам, якое паходзіць ад слова „брак", гэта абса-

**(Працяг на стар. 4)**




# Да артыкулаў аб беларускай мове

Дарагая рэдакцыя, прашу, надрукуйце гэтае маё пісьмо ў „Ніве“. Яно датычыць важнай для нас, беларусаў, справы — справы беларускага школьніцтва. У апошні час паяўляюцца ў „Ніве“ артыкулы, якія кожнага беларуса павінны прывесці сама менш да задумы над сітуацыяй беларускага школьніцтва. Я маю тут на думцы такія артыкулы, як „Спатканне з актывам“ („Ніва“, № 18, ад 30 IV 78), „Што турбуе настаўнікаў“, („Ніва“ № 46, ад 12 XI 78) і „Навучанне беларускай мовы ў 1978/79 годзе“ („Ніва“ № 48, ад 26 XI 78).

Вынікае з іх, што з кожным годам роднай мове вучыцца ўсё менш і менш беларускіх дзяцей. Гэта вынік не толькі „актуальных дэмаграфічных тэндэнцый у Беластоцкім ваяводстве“, як падаецца ў апошнім з гэтых артыкулаў. Бо чаму не навучаюць беларускай мове ні ў адной школе Сакольскай гміны? У гміне Міхалова? У пачатковых школах на Сакольшчыне вывучалі беларускую мову яшчэ ў 60-я гады. Не так даўно ў Міхалове ў ліцэі былі нават класы з беларускай мовай. Ці цяпер у гэтых частках Беласточчыны перасталі радзіцца беларускія дзеці? Працэс гвалтоўнага зніжэння колькасці тых, якія б вучыліся беларускай мове, пачаўся не так даўно — пасля рэформаў у школьніцтве. БГКТ павінна выступаць больш эфектыўна супраць гэтага працэсу. Ёсць усе ўмовы для таго, каб беларускай мове вучыліся ўсе беларускія школьнікі. Гэта нам гарантуюць пастановы. Толькі мы самі гэтых магчымасцей не выкарыстоўваем.

Таварыства павінна ў першую чаргу абавязаць членаў БГКТ, каб пасылалі сваіх дзяцей на ўрокі беларускай мовы. У гарадах, дзе няма такіх урокаў, бацькі павінны вучыць дзяцей гаварыць па-беларуску. Я сам ведаю некалькі сем'яў у Варшаве, дзе дзеці вельмі добра гавораць па-беларуску, гаворачы адначасова і па-польску. Іх бацькі не праводзілі спецыяльных урокаў беларускай мовы. Проста адно з бацькоў гаворыць да дзяцей па-беларуску.

І няпраўда, што дзецям могуць блытацца гэтыя мовы. Такое абсалютна немагчыма і не даказана!

Клубы БГКТ у гарадах павінны арганізоўваць урокі беларускай мовы. На гэта ёсць у іх і сродкі, і магчымасці. На вёсцы актыў, а таксама і члены БГКТ павінны весці агітацыю сярод беларусаў, каб пасылалі дзяцей на ўрокі беларускай мовы. У большасці выпадкаў яны проста не разумеюць патрэбы навучання беларускай мовы, не разумеюць, што захаванне роднага слова гэта адзін са спосабаў, каб захаваць сваю тоесамасць.

Гэта справа, якую варта шырэй абмеркаваць.

**Багдан Цясноўскі,**
Варшава

---

Міністэрства культуры зноў паехала ў Варшаву. Прысутнічала на сустрэчы з замежнымі дэлегацыямі. Была таксама на згадуй-згадулі. О, аб гэтым трэба расказаць. Праграму гэту вялі, як заўсёды, Ракіта і Пшыбыльскі. Я прыняла ўдзел у конкурсе. Трэба было як найбольш гумарыстычна расказаць аб сваёй культурнай працы. Заданне не цяжкое. Праўдападобна, расказала я з гумарам, бо публіка смяялася, а я атрымала ўзнагароду: ручны гадзіннік.

Гэта паездка была звязана з цэнтральнымі дажынкамі. Была ў Зале кангрэсаў на акадэміі. У мастацкай частцы выступалі горцы з Савецкага Саюза. Амаль усе нумары бісавалі. Захаплялася імі і думала, што магу ўзяць ад іх у сваю праграму.

Дажынкі адбываліся на стадыёне Дзесяцігоддзя. Сяброўкі прыехалі спецыяльным цягніком. Зноў неслі ваяводскі вянок і складалі яго гаспадару дажынак. Колькі было радасці, калі потым убачылі сябе ў кінахроніцы.

Набліжаўся канец года. Я ахрыпла. Не магла зусім гаварыць. Лекар забараніў спяваць. Сказаў, што калі не паслухаюся, ніколі не вернецца голас. Час пачаў дзяліцца на бюро, лячэнне горла і роздумы аб мінулым.



*Вядучыя актывісты арганізацыі ТППР у школе ў Клейніках М. Антанюк, І. Хіліманюк і Л. Яканюк.*

**КРАСУЙ НАША ДРУЖБА!**

# У КЛЕЙНІЦКІХ ТЭПЭПЭЭРАЎЦАЎ

Юныя прыяцелі Савецкага Саюза ў васьмігадовай школе ў Клейніках, што на Бельшчыне, складаюць вельмі актыўную і дружную сямейку. Як вядома, да Таварыства польска-савецкай дружбы могуць належаць вучні ад пятага класа пачатковай школы. У клейніцкай школе ў класах V-VIII займаецца каля 170 вучняў, сярод іх амаль 130 дзяўчынак і хлопчыкаў з'яўляюцца членамі ТППР. Апякуецца гэтай немалой і надта жывой арганізацыяй настаўніца беларускай і рускай моваў мгр **Вера Краўчук.**

У сваёй дзейнасці клейніцкія тэпэпээраўцы галоўную ролю адводзяць знаёмству з Краінай Саветаў, яе людзьмі, гаспадаркай, тэхнікай, культурай. У школьнай і вясковай бібліятэцы тут карыстаюцца папулярнасцю розныя выданні і матэрыялы аб СССР. У школу па падпісцы прыходзіць многа савецкіх часопісаў для юных чытачоў: „Бярозка“, „Вясёлка“, „Калабок“, напрыклад, у мінулым годзе клейніцкія школьнікі выпісвалі 62 экземпляры „Весёлых картинок“ і 43 экземпляры „Мурзилки“. У школе рэгулярна паяўляецца насценная газета „У сяброў“.

У клейніцкай школе не бывае такой урачыстасці ці вечарыны, на якой не дэкламаваліся б вершы і не спяваліся б песні савецкіх паэтаў і кампазітараў. А тут любяць і ўмеюць спяваць! У штогадовым конкурсе па рускай мове клейніцкія юныя русісты амаль заўсёды выбіраюцца на ваяводскія элімінацыі і займаюць там далёка не апошнія месцы.

— Нашыя прыяцелі Краіны Саветаў вядуць вельмі актыўную перапіску са сваімі савецкімі сябрамі, — расказвае В. Краўчук. — Цяжка было б знайсці такога сярод іх, хто б не меў у СССР сяброўкі ці сябра, а некаторыя перапісваюцца нават з некалькімі адрасатамі з самых розных мясцін і рэспублік. Дзеці абменьваюцца здымкамі, паштоўкамі, стужкамі, значкамі, каляровымі алоўкамі і іншымі сувенірамі. Гэтае пісьмовае знаёмства часта перарастае ў цесную дружбу, напрыклад, нядаўна адна з нашых вучаніц Аля Севярэнюк ездзіла па запрашэнню сваёй знаёмай па перапісцы ў Савецкі Саюз, а яе сяброўка прыязджала ў Польшчу.

У Клейніках **жыве Ціхан Трафімюк** — былы ўдзельнік Вялікага Кастрычніка і баец славутай Першай Коннай арміі пад камандаваннем С. Будзённага. Юныя тэпэпээраўцы наведваюць яго, запрашаюць на розныя школьныя ўрачыстасці. Ён, пакуль служыла здароўе, займальна расказваў ім аб сваіх багатых ваенных і жыццёвых здарэннях.

У цэнтры Клейнікаў ёсць месца, дзе перад эксгумацыяй у Бельск былі пахаваны савецкія воіны, што загінулі пры вызваленні вёскі ўлетку 1944 года. Гэтае месца ўшаноўваецца ўсімі жыхарамі, асабліва старанна апякуюцца ім тэпэпээраўцы.

— Цяпер мы ў вялікім падарожжы па Савецкім Саюзе, — кажа В. Краўчук. — Вандруем па карце СССР, выбіраем на ёй які-небудзь значны цэнтр, вывучаем яго па розных выданнях, артыкулах, здымках, якія знаходзяць дзеці. Цяпер якраз мы ў Ленінградзе, знаёмімся з яго багатым мінулым, выдатнымі помнікамі культуры, слаўнымі ленінградцамі. Потым, відаць, выбярэмся ў Маскву і Кіеў. Здзіўляецеся, што мы не наведваемся ў Мінск? А мы ўжо вельмі дакладна пазнаёміліся са сталіцай БССР на ўроках беларускай мовы!..

Многа добрых і цікавых спраў адбываецца ў клейніцкіх тэпэпээраўцаў.

**М. Гайдук**
Фота аўтара

---

**ФАЛЬКЛОР**




*ДАЖЫНКАВАЯ*

*Ой, вылець, вылець, перапёлачка,*
*бо ўжэ ў нас жыта но столечко.*
*Клён, Ясю, клён*
*нашэму пану ў двор!*
*Ой, выедзь, пане, на сівум каню,*
*палічы копы па ўсёму палю.*
*Клён, Ясю, клён*
*нашэму пану ў двор!*
*А ўжэ ў нас жыто дажынаецца,*
*пан з панею абнімаецца.*
*Клён, Ясю, клён*
*нашэму пану ў двор!*
*Ні шкадуй, пане, бочку мядочку,*
*нажалі жыта, так як лядочку.*
*Клён, Ясю, клён*
*нашэму пану ў двор!*
*Ні шкадуй, пане, белаго сэра,*
*дасць табе пан Буг мілаго сына.*
*Клён, Ясю, клён*
*нашэму пану ў двор!*
*Дажалі жыто, выгналі ліса,*
*а ў нашэго пана галоўка лыса.*
*Клён, Ясю, клён*
*нашэму пану ў двор!*

*

Ад Антаніны Лясоты, 1901 г. нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў 3 лістапада 1978 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

**ЦІКАВІНКА**

## ЛЯСЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

Якія яны? Перш за ўсё хвойныя і маладыя. Амаль палавіна з іх не мае 40 гадоў, падчас калі больш чым 100-гадовыя займаюць усяго 8,5% усёй лясной плошчы. Лясы займаюць каля 27% паверхні Польшчы. Найменш лясоў у нашай краіне ёсць у Плоцкім ваяводстве, а найбольш іх у Зялёнагурскім ваяводстве.

Цяпер многа робіцца для павелічэння плошчы лясоў. У гадах 1947-1975, паводле дадзеных ГУС, агульная плошча лясоў павялічылася на 1 190 тысяч гектараў. 215 тысячам гектараў лясоў пагражаюць шкодныя прамысловыя пылы і газы. Найбольшыя пашкоджанні пацярпелі лясы ў ваколіцах Катавіцаў і Любліна. **(ця)**

(Працяг са стар. 1)




умацаваць княства, стварыць у ім прыхільныя ўмовы для развіцця гаспадаркі і культуры. Даніла заснаваў шэраг новых гарадоў, напрыклад, горад Данілаў, які займеў назву ад імя заснавальніка, Львоў — ад імя яго старэйшага сына Льва. **Князь Васілька** ішоў за прыкладам брата, і якраз ён, відаць, **збудаваў** недзе ў палавіне XIII стагоддзя над ракою Супраслю **ўмацаваную крэпасць,** якой таксама **даў сваё імя.** Горад Васількаў уваходзіў у тадышнюю абаронную сістэму, да якой, між іншым, належалі крэпасці Бельск, Боцькі, Сураж, Нарва, Гарадок і шэраг іншых. І як тут паверыць, што васількоўская легенда аб двух братах звычайная выдумка?!

На жаль, ад той крэпасці, заснаванай князем Васількам, пасля мноства знішчажаючых войнаў, што пракаціліся пазней па тутэйшай зямельцы, асталося паблізу мястэчка ні то сярэднявечнае гарадзішча, ні то могільнік тае пары. Але памяць пра яе жыла доўгія стагоддзі ў назве часткі Гродзенскай пушчы — „оступ Васількова“, яно ўпамінаецца ў дакументах з 1528 і 1536 гадоў. На гэтым і канчаецца паўлегендарная гісторыя Васількова.

Да нашых дзён захаваўся пацверджаны канцылярыяй караля польскага Аўгуста III у 1750 г. пераклад, зроблены яшчэ ў канцылярыі караля Яна Казіміра, са старабеларускай мовы на старапольскую мову надта каштоўнага дакумента. Гэтым дакументам-граматай кароль польскі і вялікі князь літоўскі Зыгмунт Аўгуст у **1566** годзе прызнаваў магдэбурскае права „з усімі звычаямі яго“ гораду Васількаву, каб „тым спосабам тое места Васільков размножыцца, расшырыцца і пасадавіцца магло“. Гербам Васількова кароль і князь установіў „галаву ласіную“, а для гарадскіх патрэбаў прызнаў права на „саладоўні, піваварні з катламі, трымаць вагу памернага, мясныя крамы, таксама маставое на рацэ Супраслі з воза купецкага па два пенязі“. Дакумент акрэслівае і іншыя прывілеі і правы Васількову, у тым ліку і на ўласны гарадскі суд „перад войтам і бургамістрам і лаўнікамі прысяжнымі“. Горад Васількаў „пасадаўляў“ па загаду Зыгмунта Аўгуста „спраўца“ пушчаў каралеўскіх, староста Рыгор Валовіч. Ён вызначыў „пляцы на пасадаўленне дамоў у месце“, а таксама абшар пушчы „на разрабленне валокаў для пашні“. А межы маёмасцей горада Васількова былі такія: „...пачаўшы ад ракі Супраслі да сцяны валокаў вёскі... Студзянкі, гэтай сцяной Студзянскай да ракі Гразкай, ракой Гразкай да ракі Сакалды, Сакалдой да сцяны Ленкаўскай, што ўпадае ў раку Супрасль. Ад... гетмана Рыгора Аляксандравіча Хадкевіча... маёнтку Каракульскага за ракою Супраслю ў сцяну, якую сам ён заехаў і капцамі абклаў... дзе на той сцяне недалёка стаіць дуб разложысты бортны, за сцяной праз багно да дзвюх бярозаў, дзе ўпадае сцяна ніжэй ракі Сакалды ў тую ж раку Супрасль...“ О, які рарытас! Такім каштоўным дакументам заслужана могуць ганарыцца сённяшнія васількоўцы ўжо хоць бы таму, што такіх пісьмовых помнікаў на Беласточчыне захавалася ўсяго некалькі. Не кажучы ўжо пра тое, што горад Беласток атрымаў такі акт на сто гадоў пазней!..

У надта ж багатую гісторыю Васількова ўпісалася шэраг выдатных постацей і падзей. Староства васількоўскае, між іншым, „трымаў“ у дзяржаве вядомы гуманіст Лукаш Гурніцкі (1527-1603). Сваю непакорлівасць і волю змагання за справядлівасць і лепшае жыццё жыхары Васількова і ваколіц паказалі і ў масавым удзеле ў Студзеньскім паўстанні 1863-1864 гадоў, і ў многіх рабочых забастоўках, першая з якіх адбылася ў 1885 годзе. Актыўна дзейнічалі тут гурткі СДКПіЛ, КПЗБ, Грамады і іншых прагрэсіўных арганізацый.

Што ж, у кароценькім артыкуле немагчыма нават прыгадаць хоць бы асноўныя факты з 700-гадовай гісторыі Васількова. Можа пра іх будзем прыпамінаць пры іншых нагодах...

**Мікалай Гайдук**
фота аўтара

## Нані Брэгвадзэ



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

Заказваў

Юрка Трачук.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, сніцца мне, што на забаве я гуляю з хлопцам, якога я знаю, з Юркам. Пасля забавы мы пайшлі да мяне дамоў. Мама спытала, чаму я не зрабіла дамашняй работы, а я маме сказала, што ўсё ўжо зрабіла.

Юрка мой сказаў, што адвязе мяне ў школу, спачатку я не хацела, а потым сказала Юрку, каб адвёз. І тут я прачнулася, а была яшчэ поўнач, і я зноў легла спаць. Сніцца той самы сон, што шукаю Юрку. Прыйшлі дзяўчаты, і я хацела ісці з імі на сяло, сказала Валі, каб ехала з намі на экскурсію, завязе нас Юрка. Я ўжо чакала дзяўчат з Юркам, і тут дзяўчаты прыйшлі і кажуць мне, што я падобная на Юрку, а ён пачаў мяне цалаваць у шыю. Я яму сказала, што цалуе мяне на здраду, а ён яшчэ раз мяне пацалаваў і кажа, што на здраду. На гэтым я прачнулася. Раскажы, Астроне, што абазначае мой сон.

Твая сталая чытачка Аня

Аня! Твой сон абазначае, што думаеш ты ўвесь час пра гэтага хлопца і знаешся на снах, бо ж ты яму сама сказала, што цалуе ён цябе на здраду. Але здаецца, што твае начныя мроі з'яўляюцца нічым іншым, як перамолваннем звычайнага, штодзённага твайго жыцця.

**Астрон**




Дарагое Сэрцайка! Я вучуся ў першым класе паматуральнай школы. Бацькі жывуць на вёсцы, маюць добрую гаспадарку і жывуць багата. Сяброўкі заўсёды зайздросцілі мне, бо што толькі было моднае, я ўсё мела. І не спадзявалася, што праз гэтае багацце бацькоў я буду нешчаслівая. Пакахала я беднага хлопца — сірату Янку. Закончыў толькі прафесіянальную школу і пайшоў працаваць. Гэта стакойны, добры, працавіты хлопец. Да таго вельмі мілы і сімпатычны. Мы ўжо ходзім амаль год, але я бацькам нічога не гаварыла. Толькі вось прыехала мая мама і гаспадыня ёй сказала, з кім я хаджу і што яго скромная куртачка зусім не падыходзіць да майго шыкарнага турэцкага кажуха. Цяпер бяда. Я кожную нядзелю езджу дамоў і толькі адно чую: не такі табе патрэбны, мы ж табе ўжо цяпер таксоўку ў пасаг маглі б даць, а ён што — галыш нейкі, ды і школы не мае. Як я не пераконвала маму, што нічога, што ён бедны, але гэта добры, зарадны хлопец і ў тэхнікум вучыцца завочна пойдзе. Але дзе там... Я кахаю яго і на ніякага багацея не замяню. Мама ў роспачы. Ужо мне так праз гэта ўсё абрыдла гэтае багацце, што хацела б быць найбяднейшай і кахаць Янку свабодна, а не цярпець ад бацькоў. Сэрцайка, ці ж сапраўды ў жыцці лічыцца толькі багацце, а не сам чалавек? Выдрукуй, Сэрцайка, мой ліст, а бацькі „Ніву“ чытаюць і выпісваюць яе рэгулярна, можа гэта іх пераканае, што моцна крыўдзяць яны мяне.

Аня з Бельшчыны

Аня! Гэта праўда, што часта багацце людзям вочы засланяе. Галоўнае ж — чалавек, яго характар, а багацце — рэч набытая. Кепска, што мама не бачыла Янкі. Не трэба хаваць хлопца ад бацькоў. Паедзь з ім дадому. Ён жа, як пішаш, вельмі мілы, сімпатычны. Можа мама, калі сустрэнецца з ім, зменіць свой погляд. Жадаю поспехаў.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Г. пакінула тэстамент, у якім запісала сваёй дачцы З. дзялянку, азначаную на плане нумарам 530. У часе камасацыі, праведзенай у 1971-1973 г.г., дзялянка была прыдзелена Т., хоць фактычна апрацоўвала яе Г., а пасля яе смерці ў 1976 годзе З., якая пражывала разам з сваёй маці. Т. прадала сваю гаспадарку, а пакупнік патрабуе ад З., каб аддала яму дзялянку, спасылаючыся на натарыяльную ўмову. Хто мае права ўласнасці на гэту дзялянку?

АДКАЗ: Пасля зацвярджэння адміністрацыйнымі ўладамі камасацыі, яе ўдзельнікі робяцца ўласнікамі зямлі ў межах, устаноўленых камасацыяй. У нашым прыкладзе ў час камасацыі дзялянку 530 атрымала Т. і стала яна ўласнікам яе, а пасля таго, калі яна прадала сваю гаспадарку, уласнасць перайшла на пакупніка. З гэтага вынікае, што пакупнік як уласнік дзялянкі мае права патрабаваць ад кожнага, хто яе мае ў сваім карыстанні, звароту яму яго ўласнасці. Завяшчанне, састаўленае Г., не мае ў гэтых адносінах ніякага значэння. Завяшчальнік можа распараджацца толькі сваёй уласнасцю і толькі ў гэткіх граніцах сапраўднае завяшчанне. Таму З. не мае ніякага права на ўчастак.



*Па дарозе з Альхоўкі ў Нараўку, непрацёртым шляхам праз пушчу. Здымак прыслаў нам Мікалай Зубрыцкі з Альхоўкі. Цяпер вучыцца і жыве ў Седльцах. А, будучы ў бацькоў на канікулах, выбраўся з сябрам у „белы свет“.*

## Куток практычных ведаў





## Сваімі рукамі

Вельмі модныя цяпер розныя вязаныя рэчы, зробленыя, зразумела, сваімі рукамі. Пераважаюць цёплыя асеннія колеры. Прашу вас, у сваіх ручных работах не забывайцеся пра сваіх мужоў, сыноў, братоў! Як прыгожа выглядаюць яны ў вязаных блізкім чалавекам рэчах. І кожны думае: вось пра гэтага дык дбаюць! Могуць гэта быць свіцеры, а таксама камізэлькі. Важна памятаць пра адно: у модзе нарвежскі стыль, які заключаецца ў мностве ўзораў, пераплеценых арнаментамі, спалучэннямі розных колераў. Гэтыя рэчы практычныя не толькі на зіму, але і на халаднейшыя дні лета.

**Сяброўка**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




— Дзякуй, мы спяшаемся. Зараз мы растлумачым вам прычыну нашага візіту. Усё, што скажам, і адкуль мы, павінна застацца паміж намі.

— Можаце поўнасцю спадзявацца на мяне.

— Учора вечарам паліцыя арыштавала двух падазроных тыпаў, якія бадзяліся каля Лаўры. На перакрыжаваным допыце яны прызналіся, што з'яўляюцца бальшавіцкімі дыверсантамі, што атрымалі загад арганізаваць сабатаж. Кажуць, што да вайны яны працавалі ў тутэйшым навукова-даследчым інстытуце і ў музеі. Наш шэф просіць, каб вы прыехалі ва ўпраўленне для апазнання бандытаў. Мы хочам праверыць, колькі праўды ў тым, што яны гавораць.

— Я да вашых паслуг, — ветліва адказала дырэктарша.

Яны сышлі ўніз. Гольдэр сеў побач з шафёрам у эсэсаўскай форме, Бломбе сеў з Кульжэнка на заднім сядзенні. Праз некалькі мінут машына праехала міма паліцэйскага ўпраўлення.

— Хіба гэта не тут? — здзівілася Кульжэнка.

— Тут служба аховы грамадскага парадку і гестапа. Мы займаем будынак крыху далей, — азваўся негаваркі Гольдэр.

— Бачыце той будынак, абгароджаны калючым дротам? — паказаў Бломбе.

Вадзіцель збавіў хуткасць. Стрэлка спідометра затрымалася на дзяленні 30 км-гадз.

Ад будынка ў іх бок ішоў мужчына ў мундзіры афіцэра СС. Калі яны пад'ехалі, ён памахаў рукой. Яны спыніліся.

— У чым справа, Эрых? — запытаў Гольдэр, апускаючы шкло.

— Чакаю вас, — адказаў афіцэр, якога назвалі Эрыхам.

— Справа набыла іншы ход, начальнік пасадзіў дыверсантаў у машыну, узяў з сабою роту паліцэйскіх, і яны паехалі. Загадаў мне стаяць тут і чакаць вас, каб, не трацячы часу, ехаць за імі.

— Залазь хутчэй. Сядай побач з пані дырэктаршай.

Зачыніліся дзверцы, і машына зноў памчалася па вуліцах з шалёнай хуткасцю. Эрых паказваў дарогу.

У цэнтры горада Эрых выцягнуў з-пад сядзення чатыры аўтаматы і некалькі пачак з патронамі, а потым яшчэ некалькі гранат і касак. Увесь гэты арсенал ён падзяліў паміж калегамі, не абышоўшы і шафёра.

— Чорт ведае, што можа здарыцца ў дарозе. Неспакойны час. Банды партызан снуюць па дарогах, так будзе больш надзейна, — буркнуў ён.

— Вы хацелі б паехаць у Маскву? — запытаў Бломбе, самы гаваркі з іх. — Што, сапраўды гэта такі прыгожы горад?

— Масква — дзіўны, вялізны горад, толькі я больш люблю Ленінград. Прабачце, я хацела сказаць Пецярбург, — папраўілася яна. — Колькі гадоў я ўжо там не была.

— О, крышачку цярпення, і мы будзем у Маскве, і ў Пецярбургу — Ленінградзе, або як там яго называюць, і ў іншых гарадах. Запэўняю вас, — азваўся Гольдэр, самы негаваркі з іх.

Кульжэнка, закалыханая манатонным пагойдваннем, адкінулася на спінку сядзення і прыкрыла вочы. Яна думала, што збудуцца словы немца. Вачыма фантазіі яна ўжо бачыла крамлёўскія вежы і вуліцы Масквы, і ленінградскія каналы і масты на Няве, Зімні палац і чароўныя ціхія завулкі. Потым яна ў думках перанеслася да сённяшняга дня. Вядома, немцы абавязкова высока ацэняць яе, калі бяруць яе на такую аперацыю і так давяраюць ёй. Яна сама не заўважыла, як заснула і колькі спала.

Яна прачнулася ад рэзкага штуршка. Відаць, машына праскочыла выбоіну. Яны ехалі па шашы. Уздоўж дарогі з абодвух бакоў цягнуліся палі. Значыць, яны былі за горадам. Ёй было хораша ў гэтым „опелі“, з гэтымі людзьмі. Яна зноў заплюшчыла вочы. Маўчанне парушыў Гольдэр.

— Ну, дык дзе ўсё ж чакаюць вашы хлопцы? — запытаў у вадзіцеля.

— За трыццаць кіламетраў ад Умані. У тым месцы ўбачыш ядловец, не звычайны, не куст, а высачэзнае дрэва. Там мы павінны сустрэцца з сувязнымі.

— Старшы лейтэнант Бондзер, а што чуваць у атрадзе? — умяшаўся ў размову Бломбе. — Як там „Стары“?

— Ды за гэтыя дні нічога не змянілася. „Стары“ чакае вас. Ходзіць, як воўк, відаць, перажывае, ці ўдасца, — разгаварыўся шафёр.

— Усё будзе, як трэба. Самае страшнае ззаду, — сказаў Эрых.

Кульжэнка прыслухоўвалася да іх размовы, аднак, была занята сваімі думкамі, і сэнс іх слоў не даходзіў да яе. Нечакана да яе свядомасці дайшло, што немцы гавораць па-руску.

„Як смешна выглядае немец, які размаўляе па-руску. Зусім не пасуе адно да другога“, — падумала яна.

І раптам акамянела, адчула, як кроў прыліла да ног, а на твары выступіў пот. Ёй стала горача. У гэты момант яна зразумела, што яны вельмі добра для немцаў размаўляюць па-руску.

*(Працяг будзе)*

